# ПРАЦАЎНІК АСЬВЕТЫ

Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

№ 1 | 22 красавіка 1928 г. | № 1

ЗЬМЕСТ






## ВЫПАДКОВЫ ШЛЮБ

**(Гумарэска)**

Атрымаў настаўнік аднэй з райённых сямігодак Касьцюк квіток у дом адпачынку на Каўказ. Такое-ж шчасьце спаткала і настаўніцу тэйжа школы Алену Нічапараўну, і ў адно месца.

Парашылі выехаць разам.

Хоць Касьцюк быў з Аленаю Нічыпараўнаю і на «ты» і часамі называў яе Лёля, але больш блізкіх адносін ня меў: вечарамі комплексаў распрацоўваць ёй не дапамагаў, у кіно разам не хадзіў, млець пад праменьнямі месяцу і ня думаў.

Яму ўжо трыдцаць гадоў з гакам, а ёй 30 бяз гаку...

Ён вольны час праседжваў у кутку асьветніка за шахматамі, яна на сходах пэдгуртка, або за чытаньнем кніжок.

Сустракаліся ў калідоры кожны дзень, бо жылі ў адным памяшканьні.

Сустракаліся—і нічога, а вось паехалі—і пачалося...

Пачалося з драбніцы. Купляюць яны білеты ў Менску на Растоў.

Стаяла спачатку ў чарзе Алена Нічыпараўна, а затым яе замяніў Касьцюк.

Раптам паднялі ў чарзе гармідар:

— Вы тут не стаялі, куды прэцеся?!

— Стаяў!

— Мы ня бачылі... Вось той малады чалавек стаяў замiж жонкі—тое бачылі, а вас тут ня было...

Касьцюк усьміхнуўся: гэта-ж ён стаяў замiж «жонкі»—Алены Нічыпараўны...

Алена Нічыпараўна таксама ўсьміхаецца.

Едуць яны ў вагоне. Сядзяць у адным купэ. Касьцюк прымайстраваўся спаць на верхняй паліцы, каб хто грошай ня сьпёр, хоць ён і так паловy іх зашыў у бялізну.

Сядзіць ён у купэ побач з калегаю, гутарыць з пасажырамі. Раптам адзін запытвае:

— Вы значыць на Каўказ?

— Так.

— А жонка ваша таксама?

Касьцюк Каленік зірнуў на Алену Нічыпараўну (яна ўсьміхнулася) і кажа:

— Так... і яна туды едзе...

Хай, думаў Касьцюк, будзе так, хутчэй адвяжашся ад пасажыра... Ды і чаму ён павінен кожнаму тлумачыць, што Алена Нічапараўна яму ня жонка, а толькі калега?

На станцыі Харкаў зноў выпадак. Даручылі яны насільшчыку купіць пляцкарты. Яна сядзіць каля рэчаў, а ён ходзіць па салі... Праз нейкі час сустракае насільшчыка:

— Ну што, купілі?

— Так... Я ўжо аддаў вашай жонцы.

Зноў «жонка».

— Што за чорт?—думае Касьцюк.—Чаму абавязкова жанчына, з якою ты едзеш павінна быць тваёю жонкаю?.. Чаму такая ўпэўненасьць ува ўсіх, што яна—мая жонка?

Даехалі а поўначы да Армавіру. Зноў перасадка. Куды-ж тут ісьці начаваць?

І пашоў Касьцюк з калегаю ў бліжэйшую гасьцініцу.

— Колькі каштуе пакой?

— Чатыры рублі,—адказвае гаспадыня.

— Ча-ты-ры?! А таньней няма?

— Няма!

Што-ж тут рабіць?

Касьцюк мнецца і ня ведае, ці браць адзін пакой на двух, ці згодзіцца Алена Нічапараўна начаваць у адным пакоі з мужчынам. Нарэшце зьвяртаецца да калегі:

— Вазьмем пакой на два ложкі, ці як?

Траціць чатыры рублі, калі іх і так ня дужа багата, і Алена Нічапараўна кажа:

— Возьмем адзін пакой на два ложкі.

Увайшлі ў пакой, паклалі рэчы, селі, маўчаць.

Раптам улятае гаспадыня і запытвае:

— Ваш дакумант? Вы—муж і жонка?

— Не...

Гаспадыня зьдзівілася, вытарашчыла вочы і выпаліла:

— У такім разе ў адным пакоі ня можна, у нас наконт гэтага строга...

— Але мы з аднае школы, разам едзем...

— Ня можна!..

— Дазвольце,—пачаў зьдзіўлена Касьцюк,—што за старыя погляды на шлюб... Хіба толькі запісаных у Загсе лічаць за мужа і жонку? Есьць юрыдычны шлюб і фактычны...

— Паглядзіце на ваш дакумант. Тут напісана—ня жанаты?

— Так...

— Значыць ня можна!

— Дазвольце, што за погляды, разумееце—яна мая... заручоная,—раптам выпаліў Касьцюк.

— Усё роўна—ня можна.

— Вельмі дзіўна,—нібы я не ў савецкай рэспубліцы... Я не магу начаваць у адным пакоі са сваёю заручонаю, нават больш... Да вы разу-



мееце, што я жыву з ёю ў адным пакоі некалькі гадоў...

Алена Нічапараўна ў гэты момант палахліва зірнула на Касьцюка, але эмаўчала, бо пэрспэктыва плаціць яшчэ чатыры рублі за пакой ня вельмі яе цешыла.

— Вы проста чудачка,—хваляваўся Касьцюк.

— А вы—комік,—сказала гаспадыня.

Урэшце скончылі на тым, што гаспадыня сказала:

— Я бяру дакумант ад яе і даю ёй пакой. Вы можаце заставацца з ёй у адным пакоі, але калі міліцыя будзе правяраць пакоі, тагды самі выкручвайцеся...

Супакоіліся... Гэта такі ўплыў зрабіла на Касьцюка, што ён хадзіў па пакоі і гаварыў:

— Чорт ведае, што за парадкі!.. Я мусіў брахаць, называць цябе і зарочонаю і жонкаю, абы толькі ноч пераначаваць...

Алена Нічыпараўна сядзела і ўсьміхалася:

— Ой, я чуць не памерла ў час вашае гутаркі.

Патушылі сьвет і пачалі лажыцца спаць. Ляглі.

Доўга яны моўчкі варочаліся кожны на сваім ложку. Адна думка выпярэджвала другую. Што думала Алена Нічыпараўна ў той час Касьцюк ня ведаў, але ў яго былі думкі розныя.

Лёля—яго жонка—усе гэта гаворыць... А чаму і сапраўды Лёля ня можа быць яму жонкай? Яна настаўніца, атрымоўвае 40 руб. Ён таксама настаўнік тэй-жа школы... час ужо і ажаніцца... Атрымоўвае 50 р. 40 да 50—будзе 90 руб. 90 рублёў! Уга, гэта сума! Гэта ўжо можна жыць на сьвеце... Зрабіць першы крок...

І Касьцюк чуць ня ўстаў са свайго ложку, каб падыйсьці да ложку Лёлі...

Але другая думка перамагла першую. Што гэта ён задумаў?.. Карыстацца такім становішчам, калі яму вераць, калі яна—яго таварышка... А як-жа ёй заўтра ў вочы глядзець?.. Не-не... Трымаць сябе, як калега—і ня больш...

Думкі бегалі роем, але Касьцюк нарэшце закрыў галаву коўдраю і заснуў.

На другі дзень, калі Касьцюк прачнуўся, калега ўжо адзетая сядзела на ложку і ўсьміхалася...

Хадзілі па Армавіру, сядзелі на беразе Кубані, гулялі на пэроне, пакуль пасьля палудню ня выехалі на Туапсэ.

Калі ўжо па дарозе на Туапсэ і Сочы называлі Ал. Ніч. жонкаю Касьцюка, то ён слухаў гэта спакойна.

Прывыкла да гэтага і Ал. Нічып. Калі яе суседкі пыталі:

— Вы з мужам едзеце?

То яна спакойна адказвала:

— Так... Мы ў дваіх едзем...

Яшчэ больш яны да гэтага прывыклі, калі жылі ў агульным памяшканьні працаўнікоў асьветы ў Сочы. Разам яны сьнедалі дзе-небудзь пад кіпарысам, разам палуднавалі, разам ішлі на пляж купацца...

Усе прывыклі іх бачыць разам і лічылі іх за мужа і жонку.

— І жонка ваша настаўніца? запытвалі суседзі.

— Так, настаўніца...

— І муж ваш настаўнік?—запытвалі Алену Нічыпараўну.

— Так, настаўнік...

Адно ён толькі ведаў, што з ёю ён сябе адчувае, як з таварышом.

У такіх адносінах яны знаходзіліся ўвесь час свайго адпачынку на Каўказе, пакуль па дарозе дахаты, у Менску, абставіны не ўплялі яшчэ аднаго комплексу ў іх жыцьцёвы плян.

Прыехалі яны ў дом селяніна, занялі пакой, адзін, звычайна, каб таньней. Але здарылася так, што вольным быў толькі адзін пакой і той з адным ложкам...

Як-небудзь пераначуем—падумаў Касьцюк,—я на падлозе...

Прапануюць яму запоўніць анкету: адкуль прыехаў, хто, колькі гадоў... Дайшоў ён да пытаньня: сямейнае становішча—і задумаўся... Напісаць не жанаты, чаго добрага будзе тое самае, што ў Армавіры, напісаць жанаты—на якой падставе?.. А нарэшце ня прывыкаць да гэтага—і Касьцюк напісаў—«жанаты»...

Алена Нічыпараўна заўважыла гэты надпіс і ўсьміхнулася.

Цэлы дзень яны гулялі па Менску. Тут яны спаткалі загадчыка сваёй школы, які прыехаў сюды па справах.

— А дзе вы спыніліся?—запытвае загадчык.

— У доме селяніна... Заходзьце...

Гадзіне а 11 Касьцюк са сваёй калегай вярнуліся ў свой пакой. Яна села каля адчыненага вакна і слухала гоман гораду, а ён лёг на ложку і думаў:

Чаго мне лажыцца на падлозе, можа памесьцімся як-небудзь на адным ложку? Якая розьніца?..

Разважаў ён так датуль, пакуль заснуў, не разьдзяваючыся на ложку. Раніцаю Касьцюк прачнуўся ад стуку ў дзьверы. Прачнуўся і бачыць—па ложку пабоч з ім таксама адзетая, ляжыць Алена Нічыпараўна.

Адчыніў ён дзьверы і ў пакой увайшоў загадчык школы. Ал. Ніч. шпарка ўстала з ложку.

Загадчык акінуў вокам пакой, заўважыў, што яны спалі на адным ложку, усьміхнуўся і кажа:

— Так-так... Значыць вы тут прымайстраваліся?

На другі дзень загадчык вярнуўся ў школу і паведаміў сваім калегам:

— Навіна... Каленік Касьцюк і Алена Нічыпараўна—пажаніліся.

— Ну?.. Ня дурыце!..

— Далі-бог... Заходжу я ў Менску ў дом селяніна, дзе яны застанавіліся... Забыў, у якім яны нумары і запытваю ў каманданта. Той разгарнуў паперы... Бачу—знаёмая рука. Чытаю—анкета Касьцюка... «Ці жанаты?»—стаіць запытаньне—і тут-жа адказ,—«жанаты»... Стукаю ў пакой... Адчыняюць—і бачу: у пакоі толькі адзін ложак, яна яшчэ ляжыць, а Касьцюк адчыняе дзьверы... Думаю, што і для малапісьменнага тут справа ясная...

Калі праз два дні прыехалі Каленік Касьцюк і Алена Нічыпараўна, то іх настаўнікі сьмела віталі:

— Віншуем вас са шлюбам... Удалае падарожжа. Жонка і муж!..

Касьцюк толькі пацепваў плячыма і казаў:

— Да што вы... Нічога гэтага няма...

А Ал. Ніч. і цяпер толькі ўсьміхалася...

— Ну, дык вы-ж не забудзьце аб вясельным вечарыне!..

— Да мы нічога ня ведаем,—казаў Касьцюк.

— Ня дурыце галавы: загадчык чытаў вашу анкету ў доме селяніна, дзе было напісана—жанаты.

Цяпер толькі зразумеў Касьцюк, як глыбока пераблыталіся комплексы яго ўзаемаадносін з Ал. Нічып.

Увечары ён ляжаў на ложку і думаў:

— Чорт яго ведае, як усё пераблыталася!.. Няўжо Лёля будзе маёй жонкаю?.. А чаму-б і ня быць... Мае 50, яе 40. 40 да 50—90... 90 рублёў у месяц!.. Гэта-ж ня жарты!.. Можна ўжо жыць!.. Але ці згодзіцца яна быць яго жонкаю? Бязумоўна згодзіцца... Яна ўжо жартуючы называла яго сваім мужам... Ды і каго ёй лепшага трэба?.. А як-жа ёй сказаць?.. А ці сказаць?..

У час такіх яго думак нехта пастукаў у дзьверы. Калі ён адчыніў, то ў пакой увайшла Ал. Нічып. Глядзела яму ў вочы і ўсьміхалася...

— Сядай, калі ласка!..

— Я прышла зрабіць разрахунак за час дарогі... Чытай свае запіскі, колькі ты страціў на дваіх, а я свае падрахую...

Касьцюк нэрвова хадзіў па пакоі. Думкі несьліся адна за другою: ці сказаць ёй свой плян наконт шлюбу з ёй ці не?..

— Ну, дзе твае запіскі?..

— Мае запіскі?.. Ды... Ведаеш, Лёля, я зусім ня вёў ніякіх запісак...

— Як-жа так?... Мы-ж умовіліся... Ты страціў больш мяне, а я не хачу быць табе вінаватай...

— І ня будзеш!..

— Як-жа так?..

— Да так... Якая розьніца: ты траціла, я траціў...

Ал. Нічып. глядзела на яго незразумелымі вачыма...

— Я хацеў табе сказаць... Бач, абставіны так скляліся... Цэлы месяц у дарозе... Я—мужчына, ты—жанчына... Жанчына, мужчына... А затым выпадак у доме селяніна, дзе я напісаў, што жанаты...

Рознае могуць думаць калегі... Ну, разумееш, утварылася такая атмосфэра, што лепш нам пажаніцца...

Ал. Нічып. спусьціла вочы, а Касьцюк нэрвова хадзіў па пакоі.

— Разумееш, я прывык у час дарогі лічыць цябе за жонку... Ды і трэба калі-небудзь жаніцца... Ты атрымоўваеш 40, я 50... 40 да 50—90... Ужо можна жыць... Дык вось, як ты думаеш?..

Алена Нічапараўна падняла вочы на яго, і на гэты раз бяз усьмешкі ціха сказала:

— Я згодна...

Праз нейкі час адбылася вясельная вечарына, на якой былі толькі настаўнікі сямігодкі... Было некалькі пляшак хлебнае, селядцы і ўсё іншае, што паложана па штату...

Адным словам—гульнулі на зэкс.

**О. М.**



# „Ня мыцьцём, дык катаньнем“.

Савецкая ўлада, каб абараніць інтарэсы працаўніка ад вельмі прыткіх адміністратараў, выдала і выдае цэлы шэраг законапалажэньняў, на падставе якіх працаўнік можа абараняць свае правы.

Есьць «Кодэкс Законаў аб Працы», які прадугледжвае разгляд канфліктных спраў у розных канфліктных інстанцыях—Р. К. К., Прымірыцельныя Камеры, Трэдсуды.

Але бяда ў тым, што некаторыя «разумныя» адміністратары імкнуцца ўзяць працаўніка, калі «ня мыцьцём, дык катаньнем».

«Мол закон існуе, я яму падпарадкуюся, але «справа пя воўк - у лес не ўцячэ».

«Працаўнік ня згодзен з маёю пастановаю, скардзіцца ў розныя канфліктныя органы—ну што-ж: няхай скардзіцца, а на разбор гэтага канфлікту я магу прыйці тады, калі мне пажадаецца, а то й зусім не пайду».

Але пачном па парадку.

Два настаўнікі З. і К. працавалі ў школе фабзавуч пры Скураным Трэсьце.

У бягучым 27-28 вучэбным годзе скарачаецца адна група ў школе Настаўнікаў З. і К. звальняюць. Падстава: няма ім працы, ня глядзячы на тое, што тыя прадметы, якія яны выкладалі, засталіся ў другой групе.

Пераз некаторы час адміністрацыя Скуранога Трэсту запрашае на працу новага працаўніка, якому даручае тыя галіны працы, якія раней вялі настаўнікі З. і К.

Настаўнікі З. і К. лічаць свае звальненьне няправільным і 7-X-27 г. падаюць заяву ў РКК пры III-м групкоме.

Назначаецца пасяджэньне РКК на 14-X, аб чым 13-X даводзіцца да ведама адміністрацыі Скуранога Трэсту з просьбай прысламь для разбора справы свайго прадстаўніка. Адміністрацыя ні гу-гу. 15-X другі раз пасылаецца паведамленьне адміністрацыі Трэсту з просьбай прысламь свайго прадстаўніка на 17-X на разгляд канфлікту. Адміністрацыя стаіць на сваём—зноў не зьяўляецца.

Групком зьвяртаецца ў Аддзел Працы, які прапануе абавязкова разглядзець справу ў РКК. 5-I-28 году Групком трэці раз просіць адміністрацыю прысламь свайго прадстаўніка на 9-I—на разбор гэтай справы.

Зьмілась цвілася адміністрацыя і, урэшце, зьявілася на пасяджэньне РКК.

Але-ж зьявіцца можна, а згадзіцца на вырашэньне канфлікту—гэта справа іншая. Вынікі пасяджэньня—да згоды ня прышлі.

Перадаецца справа ў Аддзел Працы дзеля разгляду яе ў прымірыцельна-канфліктным парадку.

Назначаецца разгляд справы ў Аддзеле Працы на 28-I, але адміністрацыя Скуранога Трэсту ведае што рабіць—не зьяўляецца. Другі раз Аддзел Працы назначае разгляд справы на 4-II, выклікаюца зацікаўленыя бакі—зноў няма адміністрацыі. Трэці раз Аддзелам Працы справа гэта назначаецца на разгляд на 8-II.

Зьяўляецца «адказны» працаўнік Скуранога Трэсту, але-ж «у яго пад рукамі няма належнага матар'ялу». Згаджаюцца бакі перанесьці разгляд справы на новы тэрмін.

Прыходзіць і новы тэрмін, а адміністрацыі зноў няма.

Справа Аддзелам Працы спыняецца.

Ці ня зьдзекі-ж гэта з боку адміністрацыі Скуранога Трэсту над законам і над правамі працаўнікоў. Ці не пара такім адміністратарам «з прахладцам» указаць, што «напляваецельскія» адносіны ў адносінах працаўніка і саюзнай арганізацыі не дапусьцімы ў Савецкай дзяржаве, што трэба быць больш рухавым і ўважлівым да правоў і часу другога.

Калі ты, адміністратар, лічыш, што ты праў, прыдзі і дакажы сваю правату, а не цягні вырашэньня справы цэлыя месяцы. Не нэрвуй працаўнікоў, ня прымушай саюзны орган марнаваць дарэмна час.

Ці ня пара было-б нашым заканадаўчым органам выдаць такую пастанову, каб валакітчыкі ня толькі несьлі адказнасьць матар'яльна па ўсякай справе, якая цягнецца доўгі час па іх віне, але й несьлі адказнасьць і попрасту за валакіту, як валакітчыкі-бюракраты.

Наяўнасьць такога заканадаўчага акту падцягнула-б «санлівых» адміністратараў і ня прымусіла-б працаўніка цэлыя месяцы чакаць вырашэньня сваёй справы.

**Цімох.**



# ПРАБЛЕМА.

## (Апавяданьне з настаўніцкага жыцьця).

I.

Раённы цэнтр тапіўся пад праменьнямі сонца ў жоўта-шэрай гразі. Было парна і цёпла. Гразь плыла па вуліцах, нібы гультай-абібок. З вокан шэрых местачковых хацінак абывателі вымалі падвойныя рамы, мылі шыбы ад пылу і павуціньня. Прышла вясна. Седзячы ў хаце за непакрытым чорным сталом, малады настаўнік Юзік Барысенка чуў як рыпеў журавель местачковай студні. Лістаючы профсаюзныя справы местачковага мясцкому, дзе Юзік быў тэхнічным сэкратаром, ён напаткаў прыгожы рошчырк адказнага сэкратара мясцкому, настаўніцы Антосі Сутомскай. Паглядеў, неяк з-пад ілбу, на рошчырк, твар расплыўся ухмылкай, вочы засьмяяліся. Павярнуў галаву на бок,—паглядзеў як рошчырк выглядае з боку. Углядаўся і аб нечым думаў. І чым больш ён углядаўся ў рошчырк, тым больш перад яго вачыма паўставала постаць Антосі, настаўніцы—партыйкі, што ў мінулым годзе, скончыўшы пэдтэхнікум, прыехала выкладчыцай у местачковую сямігодку.

Вось яна, стаіць нібы перад ім, такая стройная, у мужчынскай, вышыванай у васількі, сарочцы, такая зграбная з таліі, з маленькім шпачкай-носікам. Відаць, як вучылася ў тэхнікуме,—насіла стрыжку, а цяпер залатыя валасы так прыгожа ўюцца кольцамі, так мягка спушчаюцца на круглыя, дзявочыя плечы. Іншы раз яна іх завязвае чорным вялікім бантам, і тады, калі глядзіш па яе збоку,—у яе нібы чорны вялікі матыль прыліп да залатых кучаравых валос.

Апошні раз бачыў Юзік Антосю на паседжаньні мясцкому, дзе абгаварвалася пытаньне аб удзеле настаўніцтва ў культурна-грамадзкай працы на вёсцы.

Юзікам была ўважліва занатована ў пратаколе прамова настаўніцы Антосі. Яна, выступаючы, паказвала на неабходнасьць удзелу ў культпрацы, што праводзіцца партыяй у вёсцы. Казала пра настаўніцтва:

— Раскачаць іх толькі, лямчэй за бакі ўзяць. Разбабіліся ў нас, дзяцей гадуюць, часу, кажуць, мала... Не паверу... Трэба вынесьці пастанову, каб кожны настаўнік сваім абавязкам меў зрабіць на працягу месяцу некалькі дакладаў на культурныя тэмы сялянам сваёй вёскі.

— Глядзіце,—з укорай працягвала,—я вось усюды пасьпяваю, вось бачыце, і настаўнічаю і тут у мясцкоме, і на раён выяжджаю... Кажу, можна працаваць, і часу хопіць, абы ахвота...

І вось цяпер, у выяўленьні Юзіка, яна якраз такая-такусенькая.

Антося была ўся ў жыцьці. Яна захаплялася справай да глыбіні сваёй душы. Укладала розум і малады, бадзёры пал у справу.

Гледзячы на Антосю, Юзіку таксама хацелася жыць... працаваць. Такі шырокі шлях працы! Гэта, дарма, што ён толькі настаўнік і тэхсэкратар мясцкому! Дарма!..

У комсамольскай ячэйцы Юзік быў апоргам. Ён праводзіў вечары ў местачковым нардоме, наладжваў комсамольскія вечарынкі, у ячэйцы працавалі палітгурткі, дзе камса грызла падручнікі Яраслаўскага, а вось ня так даўно Юзік стаў на чале юнкораўскага гуртка, і, вучыў хлопцаў як пісаць у газэту, як выдаваць сваю местачковую насьценную...

Антося заглядала ў комсамольскую ячэйку, давала парады, лаяла за бузу, грубасьць ды дзяўчат...

Неяк няпрыкметна Юзік пакахаў Антосю. Няпрыкметна для яго самаго-ж. Сьпярша ён глядзеў на яе, як на старэйшага таварыша па працы, хоць яны і былі амаль аднагодкі, потым яму спадабалася ў Антосі яе шчырасьць, пал, таварыскія клопаты аб чалавеку.

Няпрыкметна заўважыў, што ў яе прыгожыя, залацістыя валасы, румяныя шчокі, прыгожая талія... Потым...

І з тых часоў... З тых часоў ён у вольную хвіліну марыў аб ёй... Антося доўга не зьвярталася з Настаўніцкага Зьезду.

II.

Нядаўна яны езьдзілі ў вёску Савічы. Ехалі ў санках, да настаўніка Казлоўскага, наведаць як працуе школа, як працуе піанэрскі атрад. У парадку працы мясцкому былі пункты, па якіх неабходна было дасьледаваць працу школы, удзел настаўніка ў грамадзкім жыцьці.

Дзе-ні-дзе па палянах відаць былі праталіны—прыходзіла вясна. Аднак мароз цісну́ў, і пры сіверы, сярод асьнежанага поля, было даволі халаднавата.

Сядзелі побач. Прытуліўшыся шчыльна адзін да аднаго, патаварыску. Гутарылі аб усім, жартавалі...

Антосі было прыемна, мець побач з сабою Юзіка,—гэтага актывіста раёну, комсамольца. Седзячы побач з ім, ёй хацелася жартаваць... Асьцярожна, яна ўсё больш і больш падсоўвалася да яго, маючы на мэце выкуліць з санак. І нечакана для Юзіка гэта і здарылася. На адным з паваротаў, Юзік выляцеў... Прышлося спыніць каня, каб зноў усесьціся і ехаць далей...

Нясьмела Антося падыхала на твар Юзіка. І струменьчык пары на момант вісеў у ядраным марозным паветры...

Антося ня супакойвалася. Выцягнулааласок з-пад ног, і калі Юзік адвярнуўся, каб паглядзець, што робіцца навокал, яна правяла яму каласком па шыі...

Юзіку прыемна было адчуваць Антосіны пяшчоты. Яму хацелася пяшчот ад дзяўчыны, і ён ня супярэчыў. Нават, нібы ня прыкмеціў Антосінага жарту. А калі Антося хацела тымжа каласком у другі раз... ён падабраўшы час схапіў яе за руку... І тады нібы электрычны ток пранізаў Юзіка. Міла глянуў у вочы Антосіны.

— Ты... але ня скончыў, не пасьмеў...

А ў думках:—яшчэ і высьмеяць можа... я-ж ня ведаю як і сказаць...

Антося ўзяла яго руку ў свае рукі і пачала перабіраць да болі Юзікавы пальцы...

* * *

Сумесная паездка зблізіла іх.

Едучы поначы ў раён, яны сядзелі на санках шчыльна-шчыльна прытуліўшыся, і гарачы подых Юзікавых вуснаў паліў румянец на Антосіных шчоках.

— Кінь, Юзік... што з табою, ня дурэй...

— Ты... ты такая... ты такая новая... прыгожая ты, Антося...

Расьпісаная зорамі-сьветлячкамі хустка чорнага неба іскрыцца ў марозным паветры. Рыпяць палозы санак.

Тчэцца гутарка-саматканка:

— Так, знача, вы юбілей спраўляеце?

— Ты-ж прыдзеш, вядома, Антося?

— Пагляджу.

— Прыходзь... Ты мне не паверыш, вось колькі бачыў я дзяўчат... Шмат. І ў нас у ячэйцы, і вёсцы сваёй... Мне чамусьці хочацца быць з табою, я комсамолец, ты, праўда, партыйка ўжо... Ведаеш, Антося, прыходзь на вечар, пагуляем...

— І ня ведаю! Часу няма на гульні. Вось трэба было-б пачытаць што. Цяпер вось над матар'яламі чатыр-

наццатага партзьезду сяджу. Прапрацоўваю пытаньні аб нашым будаўніцтве. Я ўяўляю яго цяпер. Наша краіна, Беларусь, узбагаціцца шэрагам буйных прадпрыемстваў...

Савецкія гаспадаркі пры дапамозе партыі і дзяржавы стануць асяродкамі сельска-гаспадарчай культуры...

А наша школьнае будаўніцтва! У кожнай вёсцы будзе чысьценькая, добра абсталяваная школа. Дзеці павінны будуць разувацца ў калідоры і апранаць чысьценькія, спэцыяльна пашытыя бацькамі палатняныя лапцікі... Клясы будуць абсталяваны прыстасаванымі да ўзросту дзяцей скамейкамі,—нам трэба, ведаеш сам, выхоўваць здаровае пакаленьне.

Цяпер яшчэ, як я пагляджу, мы псуем нашых дзяцей. Мы выгінаем ім сьпіны, робім сутулымі, згорбленымі... У нас яшчэ няма добрага абсталяваньня ў школах... Наша беднасьць...

Праклятая спадчына...

— Хоць нам і хочацца гэтага, але гэта, памойму, справа далёкай, далёкай будучыні... Мы, як кажа вось таварыш Сталін, яшчэ ня здолелі ўзьняць і паставіць на ногі культурнасьць у масах. Нам не хапае культурнасьці мас... Ты вось зразумей: у мінулым годзе бачыў я такі выпадак.

Я жыў у вёсцы Рудні. Настаўнічаў разам з бацькам у школе першага концэнтру. Вёў я другую групу. У маёй групе вучыўся маленькі, рыжанькі, хлапчучок. Яго зваць, здаецца, Пранусь. Так, так, Пранусь... Было яму гадкоў з дзевяць. Бацька яго быў селянін, такі як і ўсе. Хадзіў у школу, вучыўся добра, а потым зьнік. Няма і няма. Я запытаўся ў дзяцей чаму няма Прануся, у школу чаму ня прыходзіць.

— Бацька ня пушчае,—адказалі мне дзеці.

...Не адкладаючы, я ў той-жа дзень пашоў да Пранусёвых бацькоў. Заходжу ў хату. Прывітаўся з гаспадыняй, маткай Прануся. Так, вось, і так, чаму ваш Пранусь у школу ня ходзіць?—спытаўся я.

— Ат, досыць па беднасьці з яго будзе. Пралупіў вочы, пахадзіў дзьве зімы, а цяпер гаспадарцы няхай вучыцца... Досыць гультаём гізаваць...

— Разумееш, Антося, мне было крыўдна на яе цемру.

А рыжанькі Пранусь, лашчыўся да мяне. Я гладзіў яго залацістую галоўку...

— Няхай-бы вучыўся,—прабаваў я з маткай Прануся гаварыць...

Прышлося выйсьці з хаты. За парогам я пачуў плач Прануся. Мне стала шкада маладога дзіцячага, шчырага плачу...

Антося глыбока ўздыхнула. Яна нібы перажыла сказанае Юзікам.

— Ты думаеш мала яшчэ ўсяго такога ў нас?

— Я і ня думаю. Ведаю, што на кожным кроку, нават у нас самых ёсьць толькі благога, толькі варожага добрым імкненьнем нашага чалавечага розуму...

— Яно відаць гэта дрэннае, благое ў нас пры самай касьці, недзе глыбока, глыбока і яго цяжка выкарчаваць нашай клясавай этыкай з яе імкненьнямі ў сьветлую будучыню чалавецтва...

— Мы вось усе працуем, працуем, кажам, што працуем на карысьць рабочаму, селяніну, самі ўпэўнены ў карысьць, неабходнасьць гэтае працы, і вось, раптам, сярод нас, так званых карысных працаўнікоў, прарываецца такі, які сваймі паводзінамі, сваім жыцьцём, зрывае ўсю нашу цяжкую, упартую працу, зрывае ,праўда, на месяц, на два, тры, покуль успаміны аб ім ня ўлягуцца сярод мас, покуль ня сьціхнуць, абрыдаюць гутаркі нашых абываталяў...

— Гэта, ведаеш, цэлая праблема, Юзік. Яе цяжка вырашыць, покуль чалавецтва ўтрымлівае ў сабе самы найразнастайны склад грамадзян, покуль чалавецтва строката адценьнямі думак, сьветапоглядаў, сьветаўспрыманьняў...

— Ты, кажаш, праблема!—з замерам сказаць пару жартаўлівых слоў, спытаўся Юзік.

— Так! Вялікая, покуль што нявырашаная праблема, і яе вырашыць наша клясавая навука, і вырашыць дыялектычна, вырашыць наша жыцьцё. Жыцьцё, брат, гэта лепшая навука ад усіх навук. Яно сувора дыялектычна. Ідэалізму з ягоным романтызмам у сапраўдным жыцьці няма. Яно матэрыялістычна, як матэрыялістычны ўвесь сусьвет...

— Ну, вось, а як ты глядзіш на каханьне? Яно, як на твой погляд, існуе? Існуе-ж такая, напрыклад, цэлая праблема каханьня. Адны кажуць, што каханьне ёсьць, другія гавораць што якое там каханьне...

— І тут, брат, памойму, жыцьцё. Дыалектыка жыцьця. А не романтыка...

— Значыцца, ты каханьня не прызнаеш? Га?—дапытваўся, жартуючы, Юзік.

— Не прызнаю няпрызнанае!..

— Ого, ты Антося, нібы філёзоф, мудрасьці кажаш:—ня прызнаю няпрызнанага! Здорава. А праўда, хто яго і прызнаваў? Мы? Савецкая ўлада? Партыя? Комсамол?..

Палазы рыпелі на аб'езджанай дарозе. Антосі хацелася гаварыць і гаварыць з Юзікам. Было так прыемна, так сьмела ехаць па асьнежаных палянах удвух...

— Дык ты ўсё-ткі прыходзь на наш вечар... А?

— Пагляджу...

III.

Антося адчувала сябе стомленай за дарогу.

Але палічыла лепш пачытаць лежучы на ложку.

За сьценкаю, у гаспадыні, гадзіньнік прабіў дзесяць разоў.

Акуратна паслала пасьцель, падсунула столік бліжэй да ложка, перанесла са шкафіку лямпачку, паставіўшы яе на столік.

Вочы ўважліва перабіралі радкі літар.

Антося асабліва цікавілася пытаньнямі перабудовы вёскі на новых пачатках гаспадараньня. Яна з захапленьнем чытала допіс «Селькора»:

«На землях былога абшарніка, піcaў у «Савецкай Беларусі» селькор, у былым маёнтку Пацічове, заклалася арцель «Комсамольская воля». У склад яе ўваходзяць 4 комсамольцы і 1 беспартыйны.

Арцель атрымала досыць сталы ўраджай—пісаў селькор, і добра наладзіла гаспадарку.

Антося, седзячы на ложку, стомленая ад паездкі, захаплялася гэтай праўдай пра нашыя дні будаваньня, дні перамог.

Гэта шчырая праўда аб новым быце, аб выніках тае працы, што праводзіцца Савецкай уладай, партыяй,—ускалыхнула розум і пачуцьці Антосі. Яна ўспомніла сёньняшнюю гутарку з Юзікам пра прарывы ў нашым будаўніцтве, успомніла аб тым, што ў нас самых ёсьць толькі благога, толькі варожага ў працівавагу добрым імкненьням чалавечага розуму.

— Хаця-б толькі ім добра было ў будучыні,—наіўна, але шчыра падумала яна. А то знойдзецца чалавек, і можа пашкодзіць, можа сарваць такую заваёву... От, малайцы, хлопцы, доўга не магла нацешыцца прыгожым фактам з жыцьця нашага часу, з перабудовы гаспадаркі на новы лад...

— Юзік,—падумала яна,—прыгожы хлапец.

— І лайдак!.. усьміхнулася...

— Нясьмелы такі, а актывіст. Хацеў гаварыць, а недагаварыў...

Яна ведала аб тым, што хацеў гаварыць Юзік з яго паводзін у санках па дарозе з Савічаў... І ёй стала нішто сорамна самой, нішто сьмешна з самой сябе...

Стаміўшыся, соладка спала Антося.

*(Працяг будзе)*

**Іл. Барашка.**

# Больш увагі выхаваўчай працы ў школе.

Яшчэ ня так даўно, два-тры гады таму назад, на шырокіх сходах рабочых і сялян, на настаўніцкіх сходах, у друку—ня раз зазначалася па ўсім нізкую граматнасьць вучняў нашых 4-х і 7-х гадовых школ. І сапраўды—наша школа, дзякуючы цэламу шэрагу аб'ектыўных умоў (адсутнасьць абсталяваньня, падручнікаў, навізна прынцыпаў працоўнае школы, навізна ідэі камплекснасьці, адсутнасьць стабільных праграм і іншае), выпускала амаль што няграматных вучняў. Неабходна было з усёй сілай націснуць на гэтае хворае месца так, каб аўтарытэт нашае працоўнае школы, у вачох рабочых і сялян, падняць на належную вышыню. Нажым з боку Народнага Камісарыяту Асьветы, пры поўнай ўвазе да гэтага пытаньня з боку Камуністычнае партыі, пры поўнай увазе з боку шырокіх колаў савецкае грамадзкасьці, быў зроблен па ўсёй лініі народнае асьветы і ў першую чаргу па лініі школы. За гэтыя часы—палепшыўся матар'яльны стан школ, матар'яльны стан настаўніка, значна павялічыўся выпуск новых падручнікаў, выпушчаны стабільныя праграмы, а ў плянах перападрыхтоўкі настаўніцтва—прыватныя мэтодыкі занялі цэнтральнае месца.

Аб гэтым ясна гавораць выпускі школ у мінулым навучальным годзе і прыёмы ў сярэднія навучальныя ўстановы.

Цяпер пяройдзем да пастаноўкі выхаваўчае справы ў школе.

Падвышаючы граматнасьць вучня, настаўніцтва, вядомая рэч, далёка ня ўсё, пачало запушчаць другі бок адзінага пэдагагічнага працэсу—гэта выхаваўчы бок працы. У выніку такога аднабаковага падыходу да школьнае працы мы маем наступныя ненармальныя зьявішчы:

1) частковае зьмяншэньне актыўнасьці вучняў у органах самакіраваньня;

2) шэраг выпадкаў падаўленьня ініцыятывы вучняў ініцыятывай настаўніка;

3) павялічэньне ўплыву мяшчанства (альбомы, пацяркі, пярсьцёнкі, рамансы і іншае);

4) паасобныя выпадкі антысэмітызму;

5) павялічэньне клерыкалізму.

Усё гэта гаворыць аб тым, што на пастаноўку выхаваўчае працы ў школе, настаўніцтва (ня ўсё, вядома), зьвяртае недастатковую ўвагу. Заветы У. І. Леніна аб тым, што кожны крок дзейнасьці ў школе, кожны крок выхаваньня адукацыі і навучаньня павінен быць неадрыўна зьвязан з барацьбой усіх працоўных супроць эксплёататараў — яшчэ далёка ня зьдзейсьнен намі.

Трымаючы цьвёрды курс і на далейшае падвышэньне граматнасьці нашага вучня, адначасова нам неабходна як мага мацней завострыць увагу вакол выхаваўчага боку школьнае справы.

Якімі-ж практычнымі мерапрыемствамі неабходна заняцца, каб палепшыць выхаваўчы бок школьнае справы.

Такімі практычнымі мерапрыемствамі зьяўляюцца:

увязка школьнае працы з грамадзка-карыснай працай (удзел у кампаніі па самаабкладаньню, па рэалізацыі сялянскае сельска-гаспадарчае пазыкі, у пасеўнай кампаніі, у перавыбараў саветаў, праца па большаму ўцягненьню дзяцей беднаты ў школы, устанаўленьне цьвёрдай сувязі з фабрыкай і заводамі, з Чырвонай арміяй, праца сярод бацькоў, арганізацыя паказальных агародаў, арганізацыя дзіцячых пляцовак (на вёсцы, пры жылтаварыствах і іншае), барацьба з антысэмітызмам шляхам:

больш частых тлумачэньняў сутнасьці нацыянальнай палітыкі Камуністычнае партыі і Савецкае ўлады,

арганізацыяй інтэрнацыянальных вечароў,

устанаўленьня сталай сувязі паміж школамі розных нацыянальнасьцяў і іншае,

шляхам рашучай барацьбы з праявамі антысэмітызму ў паасобных настаўнікаў.

Узмацненьне антырэлігійнае працы, шляхам арганізацыі антырэлігійных вечароў, арганізацыі гурткоў «бязбожнік», арганізацыя вучнёўскіх бібліятэчак па гэтаму пытаньню, выпячваньне гэтага пытаньня ў адпаведных разьдзелах праграмнага матар'ялу і іншае;

Пашырэньне гуртковае працы і, ў першую чаргу гуртковае працы па тэхнічных пытаньнях (радыё тэхнічны, розная віду майстраваньнях і г. д.).

Зразумелая рэч, што аднэй школе з шэрагам высунутых пытаньняў ня справіцца і тут неабходна дапамагчы ёй як з боку камсамольскіх і піянэрскіх арганізацыяў, так і з боку савецкіх прафсаюзных і партыйных арганізацый і ўстаноў.

На шэрагу добрых бакоў пастаноўкі выхаваўчае працы (апошніх таксама шмат маецца ў нашай савецкай школе) мы ня спыніліся з тым, каб больш завострыць адмоўныя бакі нашае школы.

І. Мазур.

---

**Сяргей Фамін.**

## Хадок.

Побач шляху шапча часты ельнік,
На шляху музыка правадоў.
Шмат хадзіў у гарады Савелі,
І пражыў дзядуля шмат гадоў.

І цяпера за плячыма клумак,
А у шапцы скарга ад сялян.
Дзед зусім,
Зусім ня хоча думаць,
Што нібы пяройдзе кулакам зямля.

Ён усё раскажа Чарвякову:
— Кулакі заселі ў сельсавет.
І шукаць папросту будзе словы
Пальцамі у лысай галаве.

. . . . . . . . . . . .

Трэці дзень ішоў у Менск Савелі,
Пыл ласкава замятаў сьляды.
Побач шляху шэпча часты ельнік
І сьпяваюць ціха правады.

Дзед ідзе.
І шлях у дзеда дальні—
На дзьве пары ліпавых лапцей.
Ён успомніў земскага начальніка,
Што пабіў і выгнаў не ўнацей.

І калі убачыў дымны горад,
Да заявы пацягнулася рука.
Паабедаў ў мяккіх касагорах
І пайшоў «галоўнага» шукаць.

. . . . . . . . . . . .

Дзед такога добрага прыёму
У жыцьці ніколі не чакаў:
Накармілі,
Начавау, як дома,
І пачуў ён праўду пра кулака.

Пацёскаў стары Савелі плечы,
Не чакаў,
А жыў ён шмат гадоў:
Чарвякоў пытаўся пра авечкі,
Пра жыцьцё сялян,
І пра...
Караў!

Заплывалі туманамі далі,
Горад зьнік таёмна ў імгле.
Дзед сядзеў на радасным вакзале,
Усьміхаючыся на білет.

. . . . . . . . . . . .

Побач шляху шэпча чорны ельнік,
У шэры змрок вагоны паплылі.
Ува сьне ўсьміхаецца Савелі:
Сьнiцца дзеду новыя палі...

Менск. 1928 г.

## Клерыкалізм, як сродак выхаваньня ў буржуазнай школе.

Нам—непасрэдным будаўніком сучаснай працоўнай школы, якая павінна выхаваць новага чалавека з марксыцка-ленінскім матэрыялістычным сьветапоглядам, якая павінна падрыхтаваць новыя кадры барацьбітоў за ідэалы рабочых і бяднейшага сялянства здаецца дзікім тое ці іншае зьявішча рэлігійнасьці, як сярод вучняў, так асабліва сярод настаўніцтва. Наша школа ўжо больш дзесяці гадоў, як вызвалілася ад уплыву клерыкалізму. Настаўніцтва ў сваёй масе ўжо даўно зразумела, што рэлігія гэта—сродак прыгнечаньня мас, што клерыкалізм гэта—сярэднявяковая ідэолёгія, якая затрымоўвае працэс разьвіцьця культуры, што рэлігія зьяўляецца заклятым ворагам навукі, і што яна знаходзіцца ў супярэчаньні з самымі элемэнтарнымі дасягненьнямі апошняй.

Вось чаму нашы асьветніцкія масы так рашуча рэагуюць, калі сустракаюцца рэдкія зьявішчы рэлігійнасьці сярод іх. Асьветнікі патрабуюць прыняцьця самых рашучых мер у адносінах тых асоб, якія працуюць у культасьветных установах і яшчэ да гэтага часу прасякнуты рэлігійным дурманам. Зразумела, што наша неадкладная задача рашучай барацьбы з усякімі зьявамі рэлігійнасьці сярод настаўніцтва. Гэтага вымагае сутнасьць выхаваньня ў нашай школе і задачы, якія выплываюць з праблемы культурнай рэволюцыі; гэтага вымагае матэрыялістычная аснова навуковых ведаў і чыстата клясавай пралетарскай ідэолёгіі ў выкладаньні.

У справе барацьбы з рэлігійнасьцю нельга быць пасыўным настаўніку, не гаворачы ўжо аб тым, што нельга дапушчаць і цені містыцызму, ідэалізму ў справе школьна-выхаваўчай працы. Рэлігія, гэта такая рэакцыйная сіла, з якой, бязупынна, сыстэматычна трэба весьці змаганьне.

Буржуазія, гэта апрабаванае вякамі аружжа прыгнечаньня мас асабліва цяпер, пушчае ў ход у капіталістычных краінах.

Нямецкі ўрад у 1927 г. падрыхтоўваў такі закон аб школе, супроць якога ўсё перадавое настаўніцтва Нямеччыны рашуча пратэставала. Праўда, гэты закон рэйхстагам ня прыняты. Калі-б гэты законапраэкт прайшоў, чаго ня здарылася, дзякуючы барацьбе пралетарыяту і перадавога настаўніцтва, то ён па сваёй сутнасьці зьяўляўся самым рэакцыйным з школьных законаў Нямеччыны, якія толькі выдаваліся за апошнія сто гадоў. Адзін нямецкі настаўнік аб «вераіспаведнай» школе, якая прадугледжвалася школьным законам, пішучы ў Ц. К. нашага Саюзу, характарызуе яе так: «Клерыкалы не адмовіліся ад сярэднявяковай ідэолёгіі, і тым самым з выкладаньня павінны быць выключаны сучасныя навуковыя веды, як тэорыя эволюцыі і іншыя, якія супярэчаць вучэньню царквы».

Вось, як ідзе барацьба клерыкалаў за ўплыў на школу і настаўніцтва ў капіталістычных краінах. **Язэп.**



## Да пытаньня аб павышэньні кваліфікацыі настаўніцтва.

*(У парадку абгаварэньня)*

У сучасны момант, як з боку адміністрацыйных установ, так і з боку прафсаюзных органаў, галоўную ўвагу зьвяртаюць на падвышэньне кваліфікацыі настаўніцтва, напрамак гэты, бязумоўна, правільны. Настаўнік, асабліва ў вёсцы, зьяўляецца амаль што асяродкам ня толькі ў культурна-асьветнай працы, але зьяўляецца і юрыстым па ўсіх пытаньнях, да якога ў першую чаргу зьвяртаюцца сяляне. Такое становішча само прымушае настаўніка падвышаць сваю кваліфікацыю.

Але поруч з добрым пачынам і імкненьнем прыходзіцца сустракацца і з вялікай перашкодай. Праграмы высылаюцца, а літаратуры няма. Літаратура занадта дарагая і разам з тым мала карысная. У літаратуры галоўнае месца адводзіцца бэлетрыстыцы, а самага галоўнага, канкрэтнага вельмі мала, або і зусім няма. Прачытаўшы цэлы том ці кніжку, не заўсёды можна знайсьці хоць-бы адну каштоўную параду, як напр.: «У педагогических курсах на дому» і інш. Кожнае выданьне абаснована толькі на зносках на іншыя выданьні, а астатнія ў сваю чаргу таксама—на другія выданьні.

Выпісваць-жа ўсе выданьні ніводзін настаўнік ня мае магчымасьці, на што ня хопіць нават усяе яго пэнсіі, бо выданьняў шмат, а вартасьць аднолькавая, чаму многія настаўнікі і зусім ня выпісваюць.

Каб лёзунг «падвышэньня кваліфікацыі» не застаўся толькі на паперы, а ажыцьцяўляўся, дык неабходна, каб нашы навуковыя пэдагагічныя працаўнікі паклапаціліся аб выданьні поўных, стабілізаваных выданьняў, бяз усякіх зноскаў на тую ці іншую тэму. Затым неабходна сурова адмежаваць выданьні «прапанованыя» ад выданьняў «дапушчаных», каб яны сапраўды апраўдалі сваё давер'е ў сэнсе каштоўнасьці зьмешчанага матар'ялу, а галоўнае, неабходна, калі ня кожная школа, дык, каб хоць апорныя школы сельсаветаў былі поўнасьцю забясьпечаны патрэбнай літаратурай, а не набываць такую за кошт самога настаўніцтва.

Індывідуальны мэтад падвышэньня кваліфікацыі лічу ня зусім правільным: папершае, што ён дапамагае некаторым працаўнікам зусім ухіляцца ад падвышэньня сваёй кваліфікацыі; падругое, што расьцягваецца на шмат гадоў. Па гарадох, дзе настаўніцтва больш згуртавана, праводзяцца курсы па вывучэньню «Марксызму і «Ленінізму», а сярод вясковага, раскіданага настаўніцтва рабіць гэта вельмі трудна. Але і з такога становішча можна знайсьці выхад, шляхам арганізацыі па раёнах, у летні час, кароткатэрміновых курсаў, на якіх лектары ня чыталі-б падрабязных лекцый, а зачытвалі-б толькі канспэкты па тэмах высылаемых праграм для падвышэньня кваліфікацыі, і настаўнікі змогуць запісаць пералік крыніц і іх перагледзець, для папаўненьня сваіх ведаў. Высылаемыя праграмы не зьяўляюцца для настаўнікаў асабліва новымі. Настаўніцтва стараецца не адставаць ад жыцьця і з новымі веяньнямі сучаснае палітыкі і літаратуры азнаёмілася і знаёміцца, галоўным чынам, праз газэты і іншую літаратуру.

Спадзяюся, што чытачы выкажуць свае погляды на справу падвышэньня кваліфікацыі і праз калектыўныя думкі яна павінна выйсьці на лепшы шлях.

**Настаўнік М. Р.**



# „Суш“

## П‘еса ў дзьвюх дзеях

Пастаноўка Сьмілавіцкага РВК, Менскай акругі.

### Дзея першая.

Памяшканьне фінчасьці з драцяною сьцяною. Направа ў дзьверы бухгальтар за вялізнымі лічыльнікамі; ля стала настаўнік і настаўніца.

Настаўніца. Якое сёньня чысло?

Настаўнік. Першае красавіка.

Нас-ца. Вось добра, а я ўжо ня маю з чаго жыць, тады давалі да 20-га, а цяпер во ўжо першае, але...

Нас-к. Мо‘ і цяпер да 20-га не атрымаем. *(Сьмех)*.

Н-ца. Так, але цяпер можа дадуць раней.

Наст-к. Давай спытаем. А мо...

Нас-ца *(да бухгальтара)*. Таварыш, сёньня пэнсія будзе? Мне так патрэбна.

Б-тэр. Няма грошай.

Н-ца *(з нявер‘ем)*. Сьмяіцёся, ёсьць.

Б-р. Кажу няма, дык і няма, во.

На-ца. Чаму няма? Мо‘ падатак не паступае?

Б-р. Падатак сабралі. А вам што, няма і баста. Чэпяцца...

На-к. Як-жа будзе?

Б-р. Так і будзе. Аддалі ня туды, куды трэба, цяпер і няма, а троха ўсохліся. Вясна, сонца...

На-ца. Як-жа жыць?

Б-р. Як хочаце, а нам якое дзела.

Н-к. Дзе-ж грошы?

Б-р. Адстаньце, не перашкаджайце працаваць. Высахлі ды годзе. Сёмага Менск прышле. Будуць.

На-ца. Але-ж вы атрымалі?

Б-р. Дык то-ж мы.

Нас-к. Нічога не папішаш, чакаем да сёмага. *(Выходзяць)*.

### Дзея другая.

РВК. Старшыні і інспэктара няма. Ля стала сядзіць сакратар, там дзелавод і г. д.

Перад вакном гоман. Дзьверы раптам расчыніліся. Уваходзяць настаўнікі, настаўніцы з надзеяй атрымаць грошы. 7-е красавіка.

Першы настаўнік. Добры дзень. Інспэктар тут?

Сэкратар. Няма, а навошта ён вам?

Другі н-к. Як няма, а сёньня сёмае. Старшыня дома?

Сэкратар. Старшыня заняты...

Трэці н-к. А як-жа з пэнсіяй?

Сэкратар. Што вы надумаліся. Грошай-жа няма. Вам сказана.

Н-цы *(усе разам)*. Сёньня-ж сёмае.

Сэкратар. Хоць і 20-е. Няма. Менск нас падманьвае, а мы вас.

Чацьверты н-к. А я чалавек у дзесяцёх пазычыў: у таго 30 кап., у таго 60, у таго 40 і г. д.—рублёў 3 сабраў. Тыдзень пражыву.

Н-ца. Ды як-жа можна. Раней 20-га давалі, а цяпер калі? Чорт ведае што.

Пяты н-к. Не клапаціцеся—да 20-га атрымаем.

Н-ца. Але, толькі гэта 20-е будзе цераз два месяцы. Есьці няма чаго.

Сэкратар. Грошы далей будуць.

Н-к. Вось так мы сял. пазыку празяваем.

Сэкратар. Менск вінават. Але пазыку купіць можна і цяпер.

Наст-ца. Даль-бог паўрубель сёньня на хлеб пазычыла.

Другая наст-ца. Крызыс. Нечага есьці. А калі яшчэ атрымаем!

Першы на-к. Ну што-ж. Ідзем *(да сэкратара)*, а калі-ж будуць грошы?

Сэкратар. Невядома, тады, як Менск прышле.

*(Дзьверы зачыніліся)*.

*Настаўнікі з гоманам разышліся. Прайшло сёмае, дзесятае, 12-е,* а грошай усё няма. У касе ўзаемадапамогі няма—усё распазычылі. Пазычыць няма дзе. Як-жа будзе? Няўжо-ж няма каму клапаціцца!?

**Саўка.**



# НАША ХРОНІКА.

### У Наркамасьветы.

**Да рэарганізацыі семёхгодак у школы сял. моладзі.**

Наркамасьветы з мэтай больш шпаркай падрыхтоўкі культурных вясковых гаспадароў-каапэратараў мяркуе з наступнага вучэбнага году ў кожнай акрузе рэарганізаваць па аднэй раённай ці вясковай сямёхгодцы ў школы сялянскай моладзі. На месцы дадзены ўказаньні, каб загадзя былі вызначаны тыя сямёхгодкі, якія будуць рэарганізаваны.

**Яшчэ адзін пэдтэхнікум.**

Наркамасьветы мяркуе з наступнага вучэбнага году адчыніць пэдтэхнікум у горадзе Слуцку. Пэдтэхнікум мяркуецца адчыніць з 2-мя першымі роўналежнымі курсамі. Такім чынам па БССР будзе з наступнага году ўжо 16 пэдтэхнікумаў.

**СПЫНЕНЬНЕ ПРЫЁМУ НА 2-ГАДОВЫЯ ПЭДКУРСЫ.**

З наступнага вучэбнага году будзе спынены прыём на 2-хгадовыя пэдагагічныя яўрэйскія курсы, бо Менскі яўрэйскі пэдтэхнікум здавальняе школы ў патрэбным ліку настаўнікамі.

**МЯРКУЕЦЦА АДЧЫНІЦЬ 25 РАЎНАЛЕЖНЫХ КУРСАЎ ПРЫ ПЭДТЭХНІКУМАХ БССР.**

Інспэктура пэдагагічнай асьветы Нар. Кам. Асьв. БССР праэктуе з наступнага году адчыніць 25 першых раўналежных курсаў пры розных пэдтэхнікумах Беларусі. Гэтае мерапрыемства дасьць магчымасьць прыняць у пэдтэхнікумы на 1000 чал. больш, чым летась.

### У ЦП Белпрацасьветы.

**Ц. П. САЮЗУ—СЯБРА Т-ВА «АЎТАДОР».**

Прэзыдыум Ц. П. пастанавіў уступіць у сябры Т-ва «Аўтадор» і ўнесьці сяброўскі ўзнос у ліку 50 руб.

**Загадваньне культаддзелам часова ўскладзена на т. Мацюкевіча.**

Часова да падшуканьня кандыдата ў загадчыкі Культаддзелу Ц. П. абавязкі апошняга ўскладзены на т. Мацюкевіча.

1-я друкарня, Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Галоўлітбел № 302.